Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

26 сакавіка 2004 года

№ 13 (466)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

Тэлетыдзень 18 канала





**Навіны рэгіёну**

## Зона адпачынку

СМАРГОНЬ. У Лылойцях робяць зону адпачынку, на ўпарадкаванне якой выдзелена 7,5 мільёна рублёў. Будзе і дзіцячая пляцоўка. У дапамогу лылойцы ладзяць суботнікі.

Тарэса КУМІШЧА.

## Першая прэм'ера

ВІЛЕЙКА. 27 сакавіка ў Палацы культуры пройдзе прэм'ера спектакля «Жанчына-д'ябал, ці Спакуса Святога Антонія» паводле Праспэра Мерымэ. Гэта першая работа рэжысёра Вадзіма Шырочына.

Ірына РАБУШКА.

## З вяселлямі – скупа

МЯДЗЕЛ. Скупым на вяселлі стаў у апошні час раён. Летась тут злучылі лёсы толькі 168 пар. Рэдка гучыць вальс Мендэльсона і сёлета. У месяц рэгіструецца не больш 6-7 шлюбаў.

Марына СЛІЖ.

## Трое на аднаго

ВАЛОЖЫН. Трое вучняў 9 "А" класа СШ №2 райцэнтра збілі на дарозе ля калгаснага рынку васьмікласніка. Прагульванне ўрокаў закончылася крымінальнай справай.

Наталля ШТЭЙНЕР.

## На «Поле цудаў»

АСТРАВЕЦ. Выхавацелька дзіцячага сада з вёскі Страча Вольга Міхалюк стане першай на Астравеччыне ўдзельніцай перадачы «Поле цудаў». Да гэтага астраўчан на «Полі цудаў» не было.

Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

## Рамонт помніка

МАЛАДЗЕЧНА. Пачаўся рамонт помніка вызваліцелям горада, што ў парку, і пляцоўкі каля яго. Старую плітку заменяць на новую, стэлу пафарбуюць, усталююць новае асвятленне.

Святлана ЦІШКО.

## Ідзе расследаванне

АШМЯНЫ. Органы ўпраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю расследуюць справу ў дачыненні да групы супрацоўнікаў мытні, якія летась незаконна прапусцілі на тэрыторыю краіны 65 аўтамашын з бытавой тэхнікай, тэкстыльна-трыкатажнымі вырабамі. Урон склаў прыкладна 2,5 мільёна долараў ЗША.

Аддзел інфармацыі "РГ".

## На «летні» час

З гэтых выхадных мы пераходзім на "летні" час. Таму не забудзьцеся 28 сакавіка ў 2 гадзіны стрэлкі гадзіннікаў перавесці на адну гадзіну наперад.

Аддзел інфармацыі "РГ".

# Госці з сярэднявечча

**МАЛАДЗЕЧНА. Традыцыйны сёмы фестываль сярэднявяковай культуры «Белы замак» упершыню прайшоў у Маладзечне на базе Палаца культуры 19–21 сакавіка.**

По словах культарганізатара палаца **Аляксандра Крышталя**, які займаўся расселеннем удзельнікаў, у горад прыехала каля 1000 рыцараў, воінаў, высакародных дам, пілігрымаў, рамеснікаў, гараджанак, манахаў з Беларусі, Польшчы, краін Балтыі, Украіны і Расіі. Яны жылі ў гасцініцы, у спартзалах гарадскіх школ, некаторыя з іх начавалі ў сваіх сяброў з Маладзечна.

Фестывалю папярэднічаў невялікі скандал: у сярэдзіне сакавіка, калі рэкламу ўжо пачалі паказваць па тэлебачанні, арганізатару свята **Дзмітрыю Нясцюку** даведаўся дадаткова атрымліваць дазвол на правядзенне ў намесніка старшыні Мінскага аблвыканкама Леаніда Крупа.

У мінулую пятніцу ўдзельнікі пачалі збірацца ў палацы ўжо ў сярэдневяковых строях. Дзіўных асобаў у яркім несучасным адзенні і скураным абутку можна было бачыць і каля гандлёвага дома «Маладзечна». У зімовым садзе адразу разгарнуўся гандаль зброяй, скуранымі футараламі і сумачкамі, сярэбранымі і меднымі ўпрыгажэннямі.



Тры дні, з 19 па 21 сакавіка, у Маладзечне гасцявалі сярэдневяковыя рыцары, дамы, менестрэлі і пілігрымы з усёй Беларусі і суседніх краін.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Уласна свята пачалося ў 18.00: спачатку ўрачыстае адкрыццё і прадстаўленне рыцарскіх клубаў і ордэнаў, затым конкурсы пастановачных паядынкаў і сярэдневяковай моды.

На наступны дзень – канцэрт, гістарычны баль і турнір. Рыцарскі турнір вельмі падобны на сучасны бокс: бой доўжыцца 2 хвіліны, пераможца –той, хто нанёс большую колькасць удараў, за наўмыснае парушэнне правілаў рыцара дыскваліфікуюць. Набраныя ачкі лічаць маршалы турніру, канчатковае рашэнне прымае распарадчык, абавязкі якога на «Белым замку» штогод выконвае **Міхаіл Мілаванаў** з «Ордэна Паўночнага храма» (Мінск).

У нядзелю вызначалі самых трапных лучнікаў і арбалетчыкаў. Меркавалася, што гэтыя спаборніцтвы пройдуць на пляцоўцы пад адкрытым небам, аднак з-за надвор'я стралкі перамясціліся ў вялікую залу палаца. А вось рыцарам, што ўдзельнічалі ў бугуртах, давялося мокнуць пад дажджом. Бугурт – калектыўная бітва. Дзве шарэнгі ўзброеных рыцараў сыходзяцца на сярэдзіне пляцоўкі і б'юцца: бліштчаць латы, мільгаюць мячы, буздыганы (шастапёры), сякеры, паверажаныя падаюць на зямлю. Ніякага жалю да праціўніка: двое заціскаюць яго шчытамі, а трэці б'е, пакуль не паваліць на зямлю. Уставаць, нават калі ёсць сілы, забаронена да канца бітвы: забітыя не ўваскрасаюць. Сёлета на бугуртах дзяжурылі 2 машыны "хуткай дапамогі", да таго ж некаторыя клубы прыехалі са сваім доктарам. Мы ных траўмаў нямнога. Па словах Аляксандра Крышталя, аднаму рыцару ў бітве адсеклі палец (дактары прышылі), яшчэ аднаму зламалі нос. Хаця апошняга, на словах дырэктара палаца **Святланы Грыцкевіч**, арганізатары папярэджвалі, што яго даспехі могуць не абараніць ад удараў зброі. З-за дажджу чацвёрты бугурт адмянілі. "Мае людзі, – сказаў **Тодар Карыян Руды (Фёдар Міхееў**, кіраўнік мінскага ваенна–гістарычнага клуба «Княжы гуф») не паслелі паўдзельнічаць. Увогуле мы супраць таго, каб на рыцарскіх бугуртах скарыстоўвалася зброя, якою ў сярэдзіне вякі карысталіся людзі простыя: сякеры, буздыганы. Мы выступаем за клінок. Ён не псуе амуніцыю, якая часам каштуе каля 1000 долараў, і не так траўмуе рыцараў".

Увечары быў канцэрт, у якім бралі ўдзел групы "Аляксандра і Канстанцін", "Стары Ольса", "Калаўрот", "Drolls". Рыцары і іх дамы паступова раз'язджаліся. Работнікі палаца, якім тры дні з ранку да вечара даводзілася прыбіраць за надзвычай вялікай колькасцю гасцей, на спачувальныя словы стомлена адказвалі: "А ў нас цяпер амаль штодня столькі наведвальнікаў".

Дырэктар Палаца культуры Святлана Грыцкевіч засталася задаволеная праграмай фестывалю і ўзроўнем арганізацыі. У яе няма прэтэнзій да ўдзельнікаў. Начальнік маладзечанскай міліцыі, па яе словах, таксама падкрэсліў высокую дысцыпліну гасцей з сярэднявечча.

Святлана ЦІШКО.

## Будзь шчаслівы

Як быць шчаслівым? На гэта пытанне шукае адказ Эдуард Мацюшонак у сваіх работах.



2-я старонка

## У чаканні цяпла

Каторы год у Сасновым Бары пад Маладзечнам людзі нецярпліва чакаюць цяпла.



3-я старонка

## Правільны шлях

Што выбіраюць падлеткі? Чарговы "Адкрыты ўрок" ад Ігара Кіцікава.




5-я старонка

■ КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# «За цяпло плацім, але не атрымліваем яго»

## Жыхары пасёлка Сановы Бор каторы год чакаюць цяпла ў сваіх кватэрах

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыла-была сям'я Купрыянаў: бацька, ветэран вайны, яго жонка і дачка. Наймалі кватэру ў чужых людзей. Цяжка было, але грэла надзея, што вось-вось падыдзе іх чарга на атрыманне кватэры. Чакалі 10 гадоў, але дачакаліся. Далі ім у 1984 годзе кватэру на плошчы Міру ў пасёлку Сасновы Бор пад Маладзечнам. «Жылое памяшканне, — пазначана ў дамове аб найме жылля, — уяўляе сабой трохпакаёвую кватэру цаглянага дома, абсталяваную (акрамя ўсялякіх выгодаў) водазабеспячэннем і цэнтральным ацяпленнем». Так яно і было спачатку, а праз 8 гадоў не стала ні гарачай вады, ні ацяплення. Няма і цяпер.**

Падобных жыццёвых гісторый у Сасновым Бары мноства.

...Ад аўтобуснага прыпынку ў пасёлку Сасновы Бор ішла жанчына. Яна згадзілася паказаць дом 1-б на вуліцы Міру, жыхары якога паскардзіліся ў рэдакцыю на дрэннае ацяпленне сваіх кватэр. З'яўленню журналістаў у пасёлку зусім не здзівілася. «Так, мерзнуць нашы людзі, — пацвердзіла яна. — Мне прасцей: жыву ва ўласным доме».

Інвалід II групы **Людміла Купрыян**, дачка ветэрана вайны **Фёдара Купрыяна**, звяртаецца ў «Рэгіянальную газету» не ўпершыню. «Як мы радаваліся, — сказала яна ў інтэрв'ю, — калі атрымалі сваю кватэру! Да гэтага наймалі ў чужых людзей. Мама казала: "Як мы будзем добра жыць! Наша старасць забяспечаная". У мяне тады якраз сын нарадзіўся. У доме з усімі выгодамі яго было лягчэй гадаваць. Але як толькі "перастройка" пачалася, так мы і "перастроіліся": у 90-я гады гарачая вада знікла, а батарэі сталі ледзь цёплыя».

Мы наведалі кватэру, дзе Людміла Купрыян жыве з 75-гадовай маці, са сваім тэрмометрам. Ён паказаў +14,5 градуса пры мінімальнай санітарнай норме +18. «Вось так мерзнем ужо не першы год, — сказала Людміла. — Здароваму прасцей, ён можа рухацца, грэцца. А я, інвалід апорна-рухальнага апарата, не магу. І мая мама не можа». Яе мама, 75-гадовая **Вера Купрыян**, сядзела, апрануўшы тры джэмперы і накрыўшыся коўдрай, у суседнім пакоі на канапе, глядзела тэлевізар і вязала шарсцяныя шкарпэткі, такія патрэбныя ў гэтым доме.



На вуліцы пацяплела, аднак 75-гадовая Вера Купрыян гэтага не адчувае. У яе кватэры тэмпература паветра ўжо больш за 10 гадоў не перавышае +14, +15 градусаў.

Фота Святланы ЦІШКО.

### Даўняя гісторыя

Барацьбу за ацяпленне, па словах Людмілы, пачаў у 1999 годзе яе бацька, але да канца не давёў, памёр. Камісіі, якія маглі б пацвердзіць нізкую тэмпературу ў пакоях, сказала Людміла, да іх выязджаць неахвотна. Аднак загадчыца аддзялення камунальнай гігіены Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Тацццяна Кугара** запэўніла ў інтэрв'ю «РГ», што іх спецыялісты гатовыя выязджаць хоць кожны месяц, абы была пісьмовая заява. «Мы заўсёды выязджаем па пісьмовых заявах. Ды нават і па вусных, — сказала яна. — З Сасновага Бору нам званілі з месяц таму. Я ім растлумачыла: пішыце заяву — мы па ёй на працягу 15 дзён прыедзем. Мы ў іх летась, наколькі я памятаю, былі». Мінулы раз, у лютым 2003 года, камісія склала пратакол, у якім гаворыцца, што «тэмпература паветра не адпавядае патрабаванням санітарна-гігіенічных нормаў». Аднак гэты дакумент сапраўдны прыкладна месяц. «За гэты час тэмпература можа змяніцца», — растлумачыла Тацццяна Кугара.

Раней дом належаў мясцовай зверагаспадарцы. Цяпер ён на балансе раённага УП «Маладзечанская жыллёва-камунальная гаспадарка». Але кацельня належыць зверагаспадарцы, таму ацяпленне па-ранейшаму забяспечвае яна. Райвыканкам часам выдзяляе паліва для кацельні, аднак не ўсё яно, на думку дырэктара раённага ЖКГ **Міхаіла Апанасевіча**, расходуецца на ацяпленне жылля. «Каб жа Хадкевіч (дырэктар зверагаспадаркі) пусціў паліва на ацяпленне жыллёвага фонду! — сказаў ён у інтэрв'ю «РГ». — А ён узяў яго на свае патрэбы, для звяркоў».

**Рыгор Хадкевіч** з гэтым не пагаджаецца. «Красці мне няма куды, — запярэчыў ён у інтэрв'ю па тэлефоне. — Ацяпленне звяркам не трэба: яны ж у футры. Каб кашу ім зварыць, трэба 100 кілаграмаў пячнога паліва ў суткі. А мы спецыяльна для гэтага купілі 28 тон».

Па словах Рыгора Хадкевіча, у кацельні па тэхналогіі трэба выкарыстоўваць пячное паліва. Аднак на яго закупку грошай няма. Дроў не хапае, а тыя, што ёсць, сырыя. «Таму не заўсёды вытрымліваем 18 градусаў», — патлумачыў дырэктар зверагаспадаркі. Ён пагадзіўся, што райвыканкам выдзеліў 80 тон пячнога паліва. Але патлумачыў: каб падтрымліваць патрэбную тэмпературу ў кватэрах, неабходна 3 тоны ў суткі. Так што 80 тон — гэта толькі на месяц. І ўвогуле Рыгор Хадкевіч не хацеў бы адказваць за нарыхтоўку паліва і дроў для ацяплення жылля. «Ёсць пратакол пасяджэння камітэта дзяржкантролю, рашэнне таго ж райвыканкама, дзе сказана: перадаць кацельню на баланс ЖКГ, — сказаў ён. — А яе не забралі, кажуць, не хапае грошай». Рыгор Хадкевіч спадзяецца, што да наступнай зімы кацельня будзе на балансе ЖКГ.

А Міхаіл Апанасевіч патлумачыў: «Мы забяром кацельню толькі пасля таго, як будзе зроблены капітальны рамонт цеплаcетак. Гэта значыць, калі будуць замененыя трубы. У такі рамонт трэба ўкласці мінімум 150 мільёнаў рублёў, якіх ні ў раёна, ні ў ЖКГ няма. Гэта праблема Хадкевіча».

...На вуліцы пацяплела, а ў кватэрах на плошчы Міру тэмпература ранейшая. «Хай бы нас зусім адключылі ад кацельні, — сказала Людміла Купрыян. — А то за цяпло плацім, але не атрымліваем яго».

**Святлана ЦІШКО.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 18.3 руб. | 25.3 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2152,00 | 2151,00 |
| Еўра | 2651,59 | 2644,55 |
| Злоты | 562,00 | 562,13 |
| Літ | 768,05 | 765,83 |
| Расійскі рубель | 75,48 | 75,51 |

«Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2155/2170 | 2155/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 17.3 | 24.3 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13830 | 13830 |
| Сасіскі, 1 кг | 4890 | 5020 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2700 |
| Рыс, 0,9 кг | 1000 | 1000 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1500 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1550 | 1550 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 450 | 530 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2300 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 1100 | 1100 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 900 | 900 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1150 | 1100 |
| Капуста, 1 кг | 300 | 300 |
| Морква, 1 кг | 380 | 380 |
| Лімоны, 1 кг | 2500 | 2800 |
| Апельсіны, 1 кг | 2000 | 2200 |
| Яблыкі, 1 кг | 1200 | 980 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2700 | 2700 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2000 | 1900 |
| Сала, 1 кг | 3300 | 3500 |
| Бульба, 1 вядро | 3000 | 3000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1100 | 1100 |

■ ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

## Пра мабільны тэлефон



**Як выклікаць аварыйна-выратавальныя службы, напрыклад, 01, 02, 03... па мабільным тэлефоне?**

**Тацццяна Сарока. Валожын.**

Адказвае інжынер электрасувязі горада Маладзечна Юрый Лужынскі:

— Спачатку трэба набраць код горада, у якім неабходна выклікаць пэўных спецыялістаў, потым неабходны нумар і яшчэ тры адзінкі. У лічбах гэта выглядае так: 801772-01;02...-111.

Інспектар дзяржаўнага пажарнага нагляду Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях Андрэй Рабец зазначыў, што так можна дазваніцца да экстранных службаў па тых тэлефонах, што падключаны да МТС. І дадаў: "Тым, хто адносіцца да VELCOM, можна набіраць прасцей: 01 (02...) ці 011 (022) у залежнасці ад мадэлі тэлефона".

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**



На міні-кірмашы «Работа і жыллё-2004», што прайшоў у аўторак у рэгіянальным цэнтры занятасці насельніцтва пры Маладзечанскім гарвыканкаме. Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ РЫНАК ПРАЦЫ

# Домік у вёсцы

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак у рэгіянальным цэнтры занятасці насельніцтва пры гарвыканкаме прайшоў міні-кірмаш «Работа і жыллё-2004» для тых, хто жадае перасяліцца ў вёску.**

Сярэдні ўзрост ахвотных пераехаць – 30 год, летась – 34. Ніводны чалавек не мае вышэйшай адукацыі. У параўнанні з мінулагоднім кірмашом – з 25 удзельнікаў адзін скончыў ВНУ. Сёлетніх наведвальнікаў схіліла да пераезду адсутнасць уласнага жылля, жаданне жыць у сельскай мясцовасці і працаваць у вёсцы. Гэтага ж неставала людзям і летась, у дадатак яны не маглі знайсці работу, іх не задавальняла і маленькая заработная плата. Яны хацелі ад 150 да 400 тысяч рублёў штомесяц.

Сёлета, напрыклад, Уладзімір Косыраў, што прыехаў на кірмаш з Турэц-Баяраў, згодны і на 100 тысяч рублёў. На жыллё не прэтэндуе. Маўляў, абы плацілі і дабірацца было зручна да месца працы. У хуткім часе Уладзімір у Маладзечанскім прафесійна-тэхнічным вучылішчы №87 набудзе спецыяльнасць механіка па металаапрацоўцы. Хоча скарыстаць веды і стаць прафесіяналам у абранай справе.

Свая гісторыя ў Надзеі Панарынай, якая адпрацавала ў Маладзечне на "Водаканале" 17 год. З работы, вельмі аддаленай ад дома, сышла з-за дзіцяці. Самастойныя пошукі работы ўжо шмат часу нічога не даюць. На кірмаш прыйшла «проста паслухаць, а раптам што». Яна не супраць вёскі. Наадварот падабаецца. Але працоўныя месцы, што прапануе вёска, – не. Да таго ж ёй патрэбны школа, магазін. І, канешне, зарплата тысяч на 200, якую прапануюць на вёсцы рэдка.

Сям'я Карыцкаў 2 гады таму ўжо карысталася паслугамі кірмаша. Віляйчане апынуліся ў Сугваздах, што на Валожыншчыне. Здаецца, толькі пачалі абжывацца. Зарплату першы год добрую плацілі — на дваіх з мужам 400 тысяч. Потым калгас імя Гастэлы перадаваўся ў сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў, які прынёс Леаноры Карыцкай заработную плату ў 30 тысяч рублёў. Дарэчы, разам з мужам яны адпрацавалі больш за 25 гадоў на розных працоўных месцах.

Патрабанні да жылля прад'яўлялі невялікія. Дом, можна драўляны, пра выгоды ніхто нічога не сказаў, галоўнае — наяўнасць прысядзібнага ўчастка. Але ж супрацоўнікі Маладзечанскага, а таксама Вілейскага і Валожынскага цэнтраў занятасці прапанавалі інтэрнаты, кватэры, катэджы.

Жыллё і работу можна было знайсці па ўсёй Беларусі. Пераважна патрабуюцца ў сельскую мясцовасць працаўнікі гаспадаркі, спецыялісты з інжынернай адукацыяй, ветэрынары.

Два папярэднія кірмашы дапамаглі 7 сем'ям, якія знайшлі прытулак на Маладзечаншчыне, Валожыншчыне, Міншчыне, Віцебшчыне. Сёлета выбіралі і гродзенскі накірунак.

**Ірына РАБУШКА.**

# Неспадзяваныя сіямскія блізняты

**ПОЛЬШЧА. Яны нарадзіліся заўчасна. Важаць прыкладна па 1200 грамаў. Патрыцыя і Оля – сіямскія блізняты, якія зрасліся грудной клеткай і жыватом. Прыйшлі на свет 13–га сакавіка ў горадзе Бытаме на поўдні Польшчы. Адзіным шанцам для іх з'яўляецца раздзяленне.**

— Каб мы не пазванілі ў газеты, не вядома, чым бы ўсё скончылася, – гавораць польскім журналістам сваякі парадзіхі Дароты Плуценнік. – Ляжала на калідоры і ніхто на яе не звяртаў увагі. Роды здарыліся праз два дні пасля апошняга даследавання ў бытамскім шпіталі.

Толькі перад самымі родамі Дароце і яе мужу Аляксандру сказалі, што ў іх народзіцца двойня. А ўвесь час перад гэтым усе даследаванні заканчваліся сцвярджэннем, што ў іх будзе сын.

Дарота і Аляксандр – беспрацоўныя. Аляксандр некалі працаваў токарам, але фірма збанкрутавала. Дарота пасля заканчэння школы так і не знайшла працы. Без працы і бацькі Аляксандра і Дароты. Родныя сіямскіх сястрычак абураныя сітуацыяй у бальніцы Бытама.

— Ім, — гаворыць газеце "Трыбуна Слёнска" сястра Дароты, — не прапанавалі ніякай дапамогі, ніхто нават не падумаў прывесці псіхолага. Дарота ў шоку.

Маці дзяўчынак адчувае сябе нядобра. Ляжыць пад кропельніцай. Не мае сілы нават узняць галаву. Але, на думку дактароў, яе стан не выклікае трывогі.

Што далей будзе з дзецьмі?

Цяпер яны знаходзяцца ў добрай клініцы ў Кракаве. Доктар дацэнт Адам Бысяк, адзін з польскіх аўтарытэтаў у справе раздзялення сіямскіх блізнятаў, кажа, што стан немаўлят "сярэдне–добры". Пакуль сястрычкам не правадзяць ніякай дыягностыкі, каб лішне не турбаваць іх. Яны нарадзіліся на 2 месяцы раней тэрміну. Падобна на тое, што яны зрасліся вантробамі.

— Добра, – кажа Адам Бысяк, – калі мы зможам момант раздзялення адкласці на адзін–тры месяцы. Хіба, што наступіць экстранная неабходнасць.

У мове медыкаў гэта азначае момант, у які адзін з сіямскіх блізнят, звычайна слабейшы, паміраe. Тады аперацыя праводзіцца неадкладна.

Польскі Фонд аховы здароўя выдзеліў на аперацыю каля 8 тысяч злотых (прыкладна каля 2 тысяч долараў). Аналагічная аперацыя у ЗША каштуе прыкладна 200–300 тысяч долараў.

Польскія дактары сцвярджаюць, што фінансы не стануць перашкодай у выкананні аперацыі, але яны пакуль не ведаюць, дзе зmогуць узяць сродкі для таго, каб знайсці трох нянек па догляду за блізняткамі пасля аперацыі.

**Іван КАСЯК.**



«Сіямскія блізняты» – не рэдкасць у прыродзе. Фота з архіва "РГ".

### А што ў нас?

Для Беларусі сіямскія блізняты – вялікая рэдкасць. «У нашым раддоме не нараджаліся такія дзеці, – сказала загадчыца радзільнага аддзялення Смаргонскай раённай бальніцы Людміла Гарбузава. – Я нават не чула, каб такія выпадкі здараліся ў Гродне».

Да родаў пры ультрагукавым даследаванні, сказала яна, можна вызначыць сіямскіх блізнятаў. Таму што кожнае дзіця разглядаюць асобна: яго ручкі, ножкі, пярэднюю брушную сценку. Калі б такі выпадак дыягнаставалі, жанчыну б адразу накіравалі ў Гродзенскі абласны раддом для далейшага абследавання.

Сіямскія блізняты, патлумачыла Людміла Гарбузава, па родавых шляхах прайсці не могуць. Кесарава сячэнне абавязковае. Яго могуць зрабіць і ў Смаргоні. «Сама аперацыя нескладаная, – сказала Людміла Гарбузава. – Аднак як пасля выходзіць такое дзіця? Мы не маем спецыяльнай апаратуры».

**Святлана ЦІШКО.**

---

■ **КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА – У РЭГІЁНЕ І БЕЛАРУСІ**

## Віляйчанін вярнуўся за краты

**МІНСК. Усяго адны суткі давялося пабыць на волі 20-гадоваму жыхару Вілейкі. Пасля таго, як ён пакінуў месца пазбаўлення волі 17 сакавіка, ён накіраваўся ў родны горад праездам праз Мінск, дзе зноў быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі.**

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе аб'яднання «Ахова» пры МУС, знаходзячыся ў сталіцы, а палове трэцяй ночы 18 сакавіка малады чалавек спрабаваў згнаць аўтамабіль ВАЗ-21051. Згон машыны прадухіліў нарад Заводскага аддзела «Аховы». Цяпер у дачыненні да рэцыдывіста распачата крымінальная справа за спробу крадзяжу транспартнага сродку, і яму пагражае чарговы тэрмін пазбаўлення волі ад 5 да 7 гадоў.

## Пахавалі Шугалея

**МІНСК. 19 сакавіка на могілках у раёне пасёлка Калодзішчы пад Мінскам адбылося пахаванне вядомага беларускага музыканта Васіля Шугалея.**

В.Шугалей, жыхар Масквы, быў забіты 7 сакавіка падчас абрабавання яго кватэры. Цела музыканта знайшлі толькі праз тыдзень і 18 сакавіка прывезлі ў Мінск, дзе жывуць яго сваякі.

В.Шугалей — лідэр легендарнага ў мінулым беларускага рок-гурта «Ы-Ы-Ы» і папулярнага маскоўскага гурта «Васіль Шугалей і 20000 запальнічак». Ён быў вядомы не толькі як музыкант, але і як актыўны прадстаўнік шоу-бізнэсу — як беларускага, так і расійскага. За яго спіной — удзел у многіх праектах, у прыватнасці, супрацоўніцтва з вядомым гуртом «Браво». Паводле інфармацыі з афіцыйнага сайта гурта «Васіль Шугалей і 20000 запальнічак» стала вядома, што забойцы ўжо злоўлены.

**Паводле БелаПАН.**

## Гісторыя з працягам

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні забілі дзвюх маладзечанак з-пад Насілава і Лялькаўшчыны.**

15 сакавіка пасля 6 гадзін вечара да 77-гадовай жанчыны, якая гандлявала самагонам, зайшло двое мужчынаў 52 і 26 год. Выпілі. Гаспадыня пайшла ў другі пакой пакласці грошы, а «госці» накінуліся на яе і збілі да смерці. Раніцай адзін з ранейшых даўжнікоў знайшоў пацярпелую.

17 сакавіка прыкладна ў той жа час старэйшы забойца «завітаў» да 66-гадовай вяскоўкі з Лялькаўшчыны. Жанчына займалася гаспадарчымі справамі. Калі вярнулася ў хату, убачыла незнаёмца. Ён забіў пацярпелую тупым прадметам, паля чаго прыхапіў з сабой некалькі бутэлек віна.

19 сакавіка ў кватэры маладога забойцы хтосьці выняў шыбу і выкраў музычны цэнтр, відэамагнітафон.

## Пазнаёміўся

**МАЛАДЗЕЧНА. 20 сакавіка ў гараджаніна дзяўчына, з якой ён пазнаёміўся ў бары «Рыф», украла мабільны тэлефон.**

Пасля адпачынку яны селі ў аўтамабіль і паехалі. Праз нейкі час хлопец выйшаў, каб патэлефанаваць. Дзяўчына не стала яго чакаць.

Асобу зладзейкі ўстанавілі. Відэакамеры, што ўсталяваны ў бары, зафіксавалі яе. Узбуджана крымінальная справа.

## Малалетні злодзей

**МАЛАДЗЕЧНА. 21 сакавіка 16-гадовы хлопец вырваў кашалёк з рук у жанчыны, якая вярталася з рынку.**

Здарэнне адбылося на вуліцы Міру паблізу дома №6. Хлопец, навучэнец Вілейскага ПТВ, родам з Лагойшчыны. Цяпер знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання. Узбуджана крымінальная справа.

## Ўкралі апарат

**МАЛАДЗЕЧНА. 22 сакавіка ў вёсцы Дубрава з механічнага двара прадпрыемства «Маладзечанская птушкафабрыка» невядомы ўкраў зварачны апарат.**

Крадзеж учынілі ўначы. Мяркуецца, што гэта зрабіў хтосьці з рабочых. Узбуджана крымінальная справа.

## Знялі псаванне

**МАЛАДЗЕЧНА. 22 сакавіка дзве цыганкі прапанавалі маладой гараджанцы зняць псаванне. «Працэдура» абышлася ў 300 долараў, не ста і залатых вырабаў, ботаў.**

На працягу трох дзён зладзейкі «апрацоўвалі» пацярпелую. Узбуджана крымінальная справа па факце махлярства.

**Па зводцы гарраійаддзела ўнутраных спраў падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ **ПАЖАРЫ**

## Вялікая бяда не напаткала

**МАЛАДЗЕЧНА. У ноч з 29 лютага на 1 сакавіка грамадзянка Л.Ю. (1929 года нараджэння, інвалід II групы), якая жыве па завулку Куйбышава ў доме барачнага тыпу, прачнулася ад гуку аўтаматычнага пажарнага апавяшчальніка, які ёй быў устаноўлены ў лістападзе 2003 года за кошт гарвыканкама.**

Нічога не ўбачыўшы ў пакоі і на кухні, у тым ліку дым... Нічога не ўбачыўшы падазронага ў сваёй кватэры, яна не супакоілася і выйшла на вуліцу. Дым ішоў з-пад дзвярэй суседа В.П. Убачыўшы гэта, Л.Ю. падняла трывогу і разбудзіла суседзяў, якія і выклікалі пажарных.

Гаспадар кватэры, 1957 года нараджэння, нідзе не працуе, пасля прыняцця спіртнога ў гэты час моцна спаў на канапе, якая ўжо пачала гарэць. На шчасце, былі пашкоджаны толькі сцены і столь, знішчана 6 кв.м плошчы.

У доме 6 кватэр, у адной з іх пражывае шматдзетная сям'я з трыма дзецьмі. Такім чынам, дзякуючы ўстаноўленаму пажарнаму апавяшчальніку і пільнасці Л.Ю. была выратавана маёмасць і жыццё 15 чалавек.

**Андрэй КАЙКО, інспектар цэнтра навучання правілам пажарнай бяспекі гарраійаддзела па надзвычайных сітуацыях.**

## Устанавіце апавяшчальнікі

**МАЛАДЗЕЧНА. За апошнія 2 гады ад дыму і агню на Маладзечаншчыне загінула 50 чалавек, 9 з іх – дзеці. Сёлета ў вёсцы Зоранька Палачанскага сельсавета загінула цэлая сям'я.**

Добрай аховай у будынках сталі аўтаматычныя пажарныя апавяшчальнікі. Яны прызначаныя для кругласутачнай бесперапыннай работы пры тэмпературы ад -10 да +55 градусаў па Цэльсію. Гукавы сігнал з'яўляецца пры задымленасці, пры гэтым перарывіста ўключаецца індыкатар чырвонага колеру. Перавагай апавяшчальніка з'яўляецца нізкае спажыванне электраэнергіі, што забяспечвае бесперапынную работу на працягу доўгага перыяду (сілкуецца ад адной батарэйкі "Крона" 9 В).

Ужо можна ацаніць станоўчыя вынікі: на вуліцы Маркава летась былі ўстаноўлены пажарны апавяшчальнік, дзе жыве шматдзетная сям'я. Гаспадар кватэры паставіў разагрэць яду на газавай пліце і заснуў. Адбылося загаранне. Суседзі пачулі сігнал апавяшчальніка, выклікалі пажарных і гэтым выратавалі жыццё аматара паспаць.

Даведацца аб набыцці апавяшчальнікаў можна ў Маладзечне па тэлефонах 3-75-11, 3-75-12.

**Наталля БЯЛЫХ, стажор цэнтра навучання правілам пажарнай бяспекі гарраійаддзела па надзвычайных сітуацыях.**

■ АДКРЫТЫ ЎРОК

# Правільны шлях




Правільна абраны шлях. Як не зрабіць памылку? Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

Іду раніцай на працу і бачу: маладая жанчына са шчаслівым тварам ляціць, нібы птушка, сталы мужчына з гаротным тварам ледзь перастаўляе ногі, быццам падэшва да асфальту ліпне.

— Ну, і што? — скажаце вы.

— Жанчыне падабаецца праца. Вось яна і ляціць на яе. Мужчыне не падабаецца праца. Вось ён і не спяшаецца.

Гэта так. Але праблема ў тым, што людзей з гаротным тварам прыкладна ў два разы больш, чым са шчаслівым. Гэта мае назіранні па Вілейцы. А вось даследаванні па ўсім свеце паказваюць, што толькі 8% насельніцтва Зямлі займаецца "сваёй" справай. Прафесійная дзейнасць астатніх 92% "не адпавядае функцыянальна-марфалагічнай арганізацыі іх мозга". Атрымліваецца, па-першае, што прафесійна прыдатнае насельніцтва працуе не вельмі добра (таму што лепей яно проста не можа), па-другое, праводзячы большую частку жыцця на ненавіснай рабоце, яно знаходзіцца ў пастаянных дэпрэсіях.

Ну, як вядома, усе хваробы ад нерваў. Таму адна з найважнейшых задач настаўнікаў (псіхолагаў) як мага раней высветліць функцыянальна-марфалагічную арганізацыю мозга сваіх вучняў. Тады і вучыцца яны будуць добра, і працаваць, і са здароўем у іх усё будзе добра.

**На пытанне: колькі вам трэба зарабляць, каб добра жыць, адказы навучэнцаў ПТВ-200 размеркаваліся так: 18 – 150 амерыканскіх долараў, 14 – 250 (калі лічыць, што сярэдняя зарплата за студзень у краіне склала 285 970 рублёў, дык большасць нашых вучняў абсалютныя рэалісты), 7 – 300, 3 – 500, 3 – 100, 1 – "каб хапала", 1 адказаў, што грошай ніколі не хоціць.**




А якая статыстыка можа быць у нас? Каб высветліць, ці правільна выбралі сваю прафесію вучні ПТВ-200, я правёў невялікае апытанне. З 26 дзяўчынак (майстар-цырульнік) 23 падабаецца выбраная спецыяльнасць. Тром – не. З 21 юнака (майстар сельскагаспадарчай вытворчасці -вадзіцель, трактарыст, слесар) 15 падабаецца. Шасцярым – не.

На пытанне, што б вы выбралі: любімую працу з сярэдняй зарплатай ці нелюбімую з высокай, сярод дзяўчынак 18 выбралі першае і 8 – другое. Юнакі адказалі наадварот: 6 за любімую працу, 15 за высокую заробітную плату.



Адкрыты ўрок вядзе Ігар КІЦІКАЎ, kitikoff@tut.by.

■ У ТАВАРЫСТВЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

# Абаронім Дом літаратара

**Раскіданае гняздо нагадвае сёння Дом літаратара ў сталіцы. Такую характарыстыку дае становішчу з будынкам цэнтральнай сядзібы Саюза пісьменнікаў Беларусі зварот сакратарыята Таварыства беларускай мовы да суайчыннікаў, прыняты 17 сакавіка.**

Нашая краіна, гаворыцца ў звароце, мае багатыя духоўныя набыткі. Адзін з іх — вядомая ва ўсім свеце айчынная літаратура, якой можа ганарыцца кожны грамадзянін. Сёння на літаратурнай ніве шчыруе каля паўтысячы творцаў. На жаль, становішча іхнае незайздроснае. Пісьменніцкая арганізацыя пачувае сябе падчаркай у роднай краіне. У 1997 годзе яе пазбавілі маёмасці, ліквідаваўшы Дом літаратара, які Саюз пісьменнікаў атрымаў у дар ад дзяржавы. Пазней забралі і пісьменніцкую паліклініку, будынак якой набыў Літфонд на свае ўласныя сродкі. Цяпер усё гэтае багацце належыць кіраўніцтву справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Дом літаратара, вядомы культурны асяродак сталіцы, дзе ладзіліся сустрэчы з пісьменнікамі, прэзентацыі кніг, вечарыны ўшанавання памяці пямерлых дзеячаў, кінапрэм'еры па літаратурных творах, дзе сабраны багаты бібліятэчны фонд,ператварыўся — паводле вобразнага выказвання паэта — у раскіданае гняздо. Гэты унікальны будынак, помнік гісторыі і архітэктуры XX стагоддзя, цяпер называецца Корпус Фрунзе, 5. Ён цалкам перватвораны ў банкетную залу. Гулянкі ладзяцца не толькі ў рэстаране, але і ў канферэнц-зале, холах. Жыццёвая прастора Саюза беларускіх пісьменнікаў абмежаваная ўсяго двума пакойчыкамі, дзе не могуць нават змясціцца найкаштоўнейшыя матэрыялы нацыянальнай культуры.

Таварыства беларускай мовы заклікае грамадзян краіны дапамагчы пісьменніцкай арганізацыі абараніць іхні Дом. Дзеля гэтага прапануем накіроўваць лісты ў сродкі масавай інфармацыі, у якіх запатрабавайце ад уладаў вярнуць адному з самых буйных творчых аб'яднанняў маёмасць, якую яны набылі і заслужылі сваёй сумленнай працай на карысць беларускай культуры.

Аддзел інфармацыі "РГ".

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

Я была настаўніцай беларускай школы, й таму на мяне кіраваліся даносы да немцаў, што бальшавічка. Мясцовыя ўлады параілі мне выехаць з Будслава, бо атрымлівалі шмат даносаў. У гэтых умовах, у кастрычніку 1941 года я выехала ў Менск. Спаткала там многа старых знаёмых зь Вільні. Дабрацца да Менска памог мне адзін чыгуначнік-немец. Прыехалі мы ноччу. Прывёз ён мяне ў Гарадзкую ўправу й аддаў пад апеку стражы. Была я вельмі змучаная падарожжам. Стражнік завёў мяне ў пакой-бюро й ашчэ не пасьпеў выйсьці, а я легчы на састаўленых крэслах — як падкінуў мяне ўверх выбух бомбы. Упала яна на двор будынка, у якім знаходзілася. Прыехалі цывільныя ўлады й мяне адтуль забралі. Завезьлі ў Самапомач. Там я й затрымалася. Там жа пазнаёмілася з прафэсарам Вацлавам Іваноўскім. Ён мяне ўстроіў на работу перакладчыцай у немцаў.

Працуючы, сьцягнула я ў Менск Вэру, а пазьней і Франка. Многа памагаў нам доктар І. Ермачэнка. Ён устроіў Вэру ў медыцынскай школе й даў нам кватэру пры Самапомачы.

У Менск прыехала многа Беларусаў зь Вільні, Варшавы, а нават з Чэхаславаччыны. Былі тут і мае гімназічныя й унівэрсытэцкія сябры. Спатыкалася ў Менску з Шавелем, Тумашам, Шукелойцем, Казлоўскім, кс. Гадлеўскім, пазнаёмілася з Юльянам Саковічам, з Кушалем і ягонай жонкай паэткай Арсеньневай. Прыязджаў часта Езавітаў, сустрэла Чабатарэвіча, Янку Касяка, Ганько і іншых. Многа пазнала сымпатычных савецкіх Беларусаў, як Антона Адамовіча, Калубовіча, Федаровіча, Віцьбіча і іншых.

Разам са мною працавалі Люба Дарошык з Гародні й Галіна — жонка акцёра Уладзімірскага. Абедзьве, як я пазьней пачула, мелі лучнасьць з савецкімі партызанамі.

У пэрыяд майго прабываньня ў Менску вялікую ролю ў маім жыцьці адыграў доктар Альберт Рыхэль — немец, сын прафэсара унівэрсытэта ў Франкфурце на Майне. Пад канец вайны ён загінуў у баях пад Бэрлінам. Калі я яго ведала, ён працаваў у Менску як навуковы працаўнік. Валодаў дзесяцьцю мовамі. Пад канец вайны яго мабілізавалі й паслалі на фронт.

У Менску быў Ян Краўчонак з Будслава. Бедны Янак, дастаў маніі прасьледаваньня й трапіў у шпітэль для псыхічна хворых. А быў такі мудры й здольны чалавек! Кончыў у Вільні юрыстыку. Працаваў дырэктарам тэатра. Многа хацела б напісаць пра жыцьцё ў Менску, але пакуль што паўстрымаюся.

Майму жыцьцю ўвесь час пагражала небясьпека. Кожны дзень прыносіў вестку аб чыйнебудзь сьмерці. Гінулі людзі ад бомбаў і з рук савецкіх партызанаў. І так згінулі з рук савецкіх партызанаў прафэсар Іваноўскі, рэдактар „Беларускай Газэты" Уладыслаў Казлоўскі, Акінчыц, малады Кушаль, Саковіч, Маракоў, кс. Гадлеўскі, кс. Глякоўскі (калі хадзіць пра ксяндзоў, то добра ня ведаю праз каго яны загінулі, магчыма, што расстралялі іх немцы); загінуў і Валодзя Шавель. Было й гінулі з рук нямецкіх, другія — савецкіх партызанаў. Было й так, што пад тэатар падлажылі партызаны бомбу, якая выбухла ў часе прадстаўленьня. Многа людзей тады загінула, а між іншымі й сын Арсеньневай.

Часта былі налёты савецкіх самалётаў, і тады ніхто з нас ня ведаў, ці жывым астанецца.

Нягледзячы на ўсё гэта, разьвівалася й квітнела культурнае жыцьцё. Паявіліся новыя опэры, як „Лясное возера", „Князь Усяслаў" з лібрэтам Арсеньневай, з музыкай Шчаглова. Скампанавана маса новых песень. Маршыравалі вуліцамі беларуская моладзь і беларускае войска.

Прыйшоў год 1944, у якім немцы штораз шыбцей пачалі адступаць на захад. У Менску ў тым часе існавала Беларуская Цэнтральная Рада на чале з прэзыдэнтам Радаславам Астроўскім і было беларускае войска рукаваздзімае Кушалем. У канцы чэрвеня адбыўся вялікі зьезд Беларусаў „Кангрэс". Не пасьпелі тыя, што зьехаліся, вярнуцца да сваіх хат, як трэба было Менск пакідаць, бо прыбліжалася да яго савецкая армія.

Аднаго дня, калі я зьявілася раніцаю на працу, сказаў мой шэф, каб ішла дахаты зьбірацца на выезд. Бюро нашае мелі перанесьці ў Вільню. Спакаваўшы частку сваіх рэчаў, прыбылі мы з Вэрай на станцыю й занялі месца ў перапоўненым доўгім цягніку. Exалі працаўнікі Цэнтральнай Рады, Самапомачы, Кіраўніцтва Беларускай Моладзі й беларускае войска. Ад'яжджаў і мой брат Франак, але ў іншым чым мы цягніку.

Не кранулiся мы яшчэ зь месца, як пасыпаліся на нас савецкія бомбы. Нікому аднак шкоды не ўчынілі. Рушылі мы ў дарогу пад раніцу.

Анеля КАТКОВІЧ.

Працяг будзе.

# У Бярозаўцах — вясна

**Вёска Бярозаўцы — адзін з населеных пунктаў Хоўхлаўскага сельсавета. Некалі бойкая і гаманлівая, свой век дажывае ў статусе пенсіянеркі, сумна пазіраючы на сцяну лесу, якая цягнецца адразу за гумнамі, і на бязлюдную дарогу. У вёсцы, дзе некалі былі дзве брыгады — "Брод" і "Бярозаўцы", — засталося толькі трое працаздольных. А некалі ж, у час сенакосу, на луг выходзіла па сто касцоў.**


Прыпякло вясновае сонейка, і Зоя Драбовіч і Ірына Козел скінулі ватоўкі.


Вячаслава Няверу жыхары Бярозаўцаў выбралі сваім старастам.

## У складзе маёнтка Хоўхла

Першыя ўспаміны пра вёску Бярозаўцы датаваныя 1646 годам. Была яна тады ўласнасцю Радзівілаў, налічвала 10 двароў і ўваходзіла ў склад маёнтка Хоўхла. У 1800-м тут ужо былі 24 двары і 163 жыхары, а ў 1866 годзе Бярозаўцы налічвалі 63 чалавекі, 16 з якіх належалі Хелхоўскім, 44 – графу Тышкевічу і 3 – Багарэвічу.

З 1921 года вёска была ў складзе Польшчы, а з 1939-га ўвайшла ў склад БССР.

## Жыццё калгаснае

"У Бярозаўцах я нарадзіўся, тут вырас, састарэў, — расказвае **Вячаслаў Нявера**. — Памятаю, як весела было ў нас да вайны. Моладзі – у кожным двары. Днём працуюць, не разгінаючы спіны, а вечарам – на танцы. Часам да раніцы не сціхаў гармонік на вуліцы.

Калгасаў людзі баяліся. Шкада было аддаваць сваё дабро, ды і не ведалі, што прынясе гэта агульнае жыццё. Першым напісаў заяву аднавяскавец па прозвішчы Купрыян. Яму, шчыра кажучы, не было чаго губляць. Адно толькі і меў багацце, што кагал дзяцей. За ім падаліся Мікалай Сянько, Пётр Казёл. Паздавалі ў агульную казну збожжа, коней, вупраж і астатнія вяскоўцы. А пасля ячшэ разабралі, аддалі калгасу і халодныя пабудовы: гумны, свірны. Плакалі, шкадавалі, ды выбару не было. Таго, хто не падпарадкоўваўся, улады абяцалі саслаць у Сібір".

З цягам часу жыццё наладзілася. Людзі прывыклі да калгасаў, калгаснага ладу жыцця, сталі будаваць планы на будучае. Усе мары і надзеі перакрэсліла вайна.

## Часы акупацыі

"Немцы нашу вёску не мінулі, — успамінае вясковы староста Вячаслаў Нявера. — Я тады яшчэ быў хлапчуком, тым не менш, як сёння, памятаю тую страшную ноч, калі па Бярозаўцах пранёсся хапун. Узброеныя чужынцы ў вялікіх касках наляцелі на світанні і, сабраўшы ўсіх мясцовых мужчын, некуды пагналі. Плакала маці, галасіла ў двары суседка. Кожны думаў, што бачыў свайго гаспадара апошні раз. Аднак праз дзень прыйшлі звесткі, што мужчын не расстралялі, а прымусілі капаць у Красным акопы".

Жылі цяжка, не тое, што хлеба, бульбы ўдосталь ніколі не елі. А яшчэ трэба было дапамагаць партызанам, якія час ад часу наведваліся ў вёску. Каб падтрымаць іх, праводзілі ссыпшчыну. У вызначаны дзень, прыцемкамі, прабіраліся да адной з хат у цэнтры вёскі і аддавалі гаспадарам муку, збожжа, бульбу, калі хто меў, кавалак сала, збаночак масла, яйкі. А пасля трэсліся, як асіны. Даведаюцца немцы, што ў вёсцы былі лясныя госці, – спаляць дашчэнту.

У страху былі і дзень, і ноч. А тым часам вясткі ў вёску прыходзілі адна страшнейшая за другую. Карнікі спалілі Ермакі, Каменшчыну, Доры. Панаўшыся, людзі вырашылі схавацца на балоце. Толькі адным ім вядомымі сцежкамі прабіраліся праз багну на Журніўку, так называўся своеасаблівы астравок на балоце, дзе расло багата журавін, і капалі зямлянкі. У іх і хаваліся жанчыны і дзеці ў час адступлення немцаў.

## Вёска пасляваенная

Пасля вайны зноў сталі арганізоўваць калгасы. Нялёгка было людзям станавіцца на ногі, абжывацца. Працавалі ў калгасе ад рання да змяркання, але з няпшчымі выйшлі не хутка. Таму, калі выдавалася вольная часіна, абавязкова хадзілі ў лес: па грыбы ды журавіны, якіх багата расло на балоце.

"Пасля таго, як яго асушылі, — расказвае Вячаслаў Нявера,— ягад не стала. Абмялела і некалі хуткаплынная Бярэзіна. Людзі кажуць, што вада ў зямлю схавалася. Можа, яно і так, жыццё ідзе, усё мяняецца. Ды, як бачыце, не ў лепшы бок.

Некалі прама з акон маёй хаты была бачна ферма. У ёй — дойны статак на 200 галоў, побач – 4 цялятнікі, адкормачнік. Цяпер ад усяго гэтага багацця засталіся напалову разбураныя памяшканні. Хаця, каму тут працаваць. На ўсе Бярозаўцы толькі адна даярка, ды і тая ездзіць на работу ў Хоўхлава".

Была некалі ў вёсцы і свая пачатковая школа, дзе працавалі настаўніцы **Соф'я Нявера, Глафіра Тынкевіч, Ядвіга Жогла**. Пасля яе закрылі, і за ведамі бярозаўскія дзеці сталі хадзіць у Хоўхлава. Затым не стала бібліятэкі, магазіна, у якім мясцовыя людзі набывалі ўвесь неабходны ў гаспадарцы тавар.

"А дзе ж хлеб купляеце, цукар?" — удакладняю ў людзей. "Аўталаўка два разы на тыдзень прывозіць, — расказваюць яны. – А калі каму ёсць неабходнасць што іншае купіць, заказваем дзецям, унукам, пляменнікам, што ў горадзе жывуць. Не адмаўляюць, прывозяць".

## Залатое вяселле

Нядаўна ў Бярозаўцах было вяселле. **Эдуард і Ірына Козелы** адзначылі 50–годдзе сумеснага жыцця. Вясковыя жанчыны расказваюць, што ўсё ў іх было, як на сапраўдным вяселлі. І багаты стол, і маладыя на куце, і нават музыкі, якія не давалі нагам спакою, і добрыя словы ў адрас гэтых шчырых людзей.

Працавалі абое ў жывёлагадоўлі. Ды не абы дзень да вечара, а старанна, так, каб не сорамна было людзям у вочы глядзець. Акрамя таго, дом у парадку трымалі, гаспадарку немалую. Інакш не маглі. Якніяк, пяць дачок трэба было падымаць на ногі, кожнай рыхтаваць пасаг. Выраслі, разляцеліся, хто куды. Засталася пры бацьках толькі меншая. Працуе паштальёнам, носіць па вёсках газеты ды пенсіі. Прыглянецца якому-небудзь хлопцу, глядзіш – звязе на цэнтральную сядзібу калгаса ці ў горад.


Да выхаду на пенсію Надзея Кульбака працавала ў калгасе даяркай. Цяпер на заслужаным адпачынку, але склаўшы рукі сядзець не можа. Кожны дзень у працы па дому, гаспадарцы.


"Кінеш бярэмца дроў у печку, — сцвярджае Яўген Купрыян, — і яна адкажа табе цяплом".

## Доўгажыхары

Старэйшы жыхар Бярозаўцаў – **Пётр Нявера**. 92 гады адзначыў сёлета чалавек, але склаўшы рукі не сядзіць. Корпаецца па гаспадарцы, сочыць за домам. А мінулай восенню ўзяў ды здзівіў усю вёску – пасек і склаў у паленніцу цэлы прычэп дроў.

**Ніна Казёл** маладзейшая за яго на год. Але вокны бабулінай хаты зімой не свяціліся. Забраў сын да сябе ў горад. Маўляў, не тыя гады, каб жыць адной. Толькі гараджанкай жанчына так і не стала. Чакае, не можа дачакацца вясны, каб вярнуцца ў сваю хату, дзе, як кажуць, і сцены дапамагаюць. Сумуе па сваіх людзях, а яшчэ больш – па гародчыку. Суседзі расказваюць, што баба Ніна цэлае лета корпаецца ў градах. Поле, палівае гародніну, якая аддзячвае ёй добрым ураджаем.

## Бывайце, Бярозаўцы!

За паўдня, праведзеныя ў вёсцы, перазнаёмілася амаль што з усімі бярозаўцамі, якія з задавальненнем расказвалі як пра сябе, так і пра ўчарашні, сённяшні дзень вёскі. На цяжкасці, хваробы не скардзіліся. Вясна прыйшла, няма часу слухаць, дзе што баліць. Трэба брацца перабіраць бульбу, куплячы насенне ды шукаць аратага з канём, бо ў іх вёсцы свайго цяглавай сілы няма ні ў аднаго з 38-мі двароў...

Марына СЛІЖ.


Ніхто ў Бярозаўцах не змог сказаць, адкуль пайшла назва іх вёскі. Можа, ад саміх бяроз, што растуць амаль што ля кожнага двара.


У самым пачатку вёскі жыхары Бярозаўцаў паставілі крыж. Як абярог ад няшчасцяў і бед.

■ ЖЫЦЦЁВАЕ

# Застаўся толькі боль

**Яны пазнаёміліся праз газету. Мужчына з Маладзечна, што стаміўся ад адзіноты, і жанчына-ўдава з Валожынскага раёна, якая так яе баялася, вырашылі злучыць свае лёсы. А пасля высветлілася, што ён проста пасмяяўся з яе пачуццяў.**



**Ніхто ў шчаслівай пары не хоча аўдавець, — гаворыць народная мудрасць. Яно і не дзіва: удваіх і жыць лягчэй, і старасць сустракаць.** Фота ByMedia.Net

## Няўдалае замужжа

Замуж Надзя (усе імёны герояў гэтай гісторыі зменены) выходзіла па каханні. Чалавекам яе Коля быў зухаватым ды і да чаркі часам лішне прыкладваўся, аднак гэта не насцярожыла дзяўчыну. "Пачнём жыць разам, — дзялілася яна з сяброўкамі, — займуся выхаваннем. Гэта цяпер яму няма да каго спяшацца, вось і заседжваецца ў кампаніях. А створым сям'ю, усё па-іншаму пойдзе. Коля ж добры, з ім можна ладзіць".

Гэта самая дабрыня і пагубіла яе мужа. Меў «залатыя» рукі, нікому не мог адмовіць у дапамозе, а грошы за работу браць саромеўся. "Вадкім доларам" разлічваліся з ім удзячныя кліенты, хвалілі за бескарыслівасць і сунулі, асалавеламу ад выпітага майстру, пляшку яшчэ й з сабой. Ён не супраціўляўся, ведаў жа, што заўтра не зможа без ста грамаў адарваць галаву ад падушкі.

"Татка, не пі," — прасілі дзеці. "Коля, апомніся, ты ж не вораг свайму здароўю, ты ж не горшы за людзей," – ушчувала жонка. Ён, здавалася, нікога і нічога не чуў. Так і пражывушыя ні за Надзю, якая была жыццё, ніколі не парадаваўшыся ні за Надзю, якая была добрай маці і гаспадыняй, ні за сыноў, што раслі талковымі, стараннымі хлопцамі.

## Адна

Тры гады таму Коля памёр. Застаўшыся адна, жанчына не ведала, куды кідацца, куды ісці. На сэрцы раптам зрабілася пуста, адзінока, трывожна. "Як цяжка мне было з ім, так цяжка і без яго, — прызналася яна падчас тэлефоннай размовы. – Хоць і дрэнным мужам быў, хоць і крыўдзіў, а не стала – быццам кавалачак сэрца майго хтосьці адарваў. Колькі начэй не спала, колькі слёз выплакала, адна толькі падушка ведае. Думала, ніколі на другога не гляну".

Параненае сэрца боль адпусціў не адразу. Хадзіла на працу, ездзіла на дачу, у вёсцы ў яе застаўся бацькоўскі дом, прыбірала ў хаце, гатавала ежу, а сама была быццам бы ў якім тумане. "Усё, жыццё скончылася, — дзялілася яна са сваімі суседкамі. – Відаць, старая стала. Нішто не радуе, нічога не хочацца".

## Сэрцу хочацца цеплыні

Пісьмо ў рубрыку "Знаёмствы" яна напісала пасля таго, як паглядзела фільм "Кава з водарам жанчыны". "Змагла ж яе гераіня знайсці сваё каханне ў 48 гадоў, — дзеліцца Надзея. Вось і я вырашыла зрабіць выклік свайму лёсу".

Газета выйшла. У той жа вечар быў першы тэлефонны водгук на яе аб'яву. Называў адзін мужчына, затым другі, трэці. Пасля выхадных сталі прыходзіць пісьмы. "Я ніколі не думала, — гаворыць Надзея, — што ў нас так шмат адзінокіх мужчын, якія хочуць і не могуць знайсці сабе спадарожніцу жыцця. Хаця дзіўнага тут нічога няма. У нашым узросце не ходзяць на дыскатэкі, бокам абмінаюць бары і рэстараны, а клубаў знаёмстваў, дзе можна было б сустрэцца тым, каму за 40, няма".

Пісьмо, якое перавярнула ўсё яе жыццё, прыйшло апошнім. "Я не ведала чалавека, што даслаў мне гэты ліст, не ведала, што ў ім напісана, а канверцік быццам бы грэў рукі, — успамінае жанчына. – Я набрала нумар тэлефона, які мужчына ўказаў у лісце, і на другім канцы провада мне адказалі".

Сустрэцца яны дамовіліся праз два тыдні. Увесь гэты час, быццам бы прадчуваючы нешта нядобрае, Надзя не знаходзіла сабе месца. За якую б работу ні бралася, усё валілася з рук. "Што ж пашле мне з гэтым чалавекам бог: шчасце, мукі?" — пыталася яна сама ў сябе і не знаходзіла адказу.

Адно аднаму яны спадабаліся адразу. "Ад вакзала да дома, — успамінае жанчына, — ішлі не больш 20-і хвілін. А селі абедаць, здалося, ведаю гэтага чалавека вечнасць. З ім было проста, лёгка, надзейна. Гаварылі шчыра, адкрыта. Я расказала пра сваё жыццё, ён – сваю біяграфію. Быў жанаты, развёўся, пасля лёс звёў яшчэ з адной жанчынай. Аказалася карыслівай, няўважлівай, раз'ехаліся. Пазнаёміўся з другой. Зноў не выйшла. "Напэўна, я ўсё жыццё шукаў такую, як ты, — сказаў ёй Андрэй. — Ды і па гараскопу мы адно аднаму падыходзім. Ты – Дзева, я – Казярог, усё павінна атрымацца".

## У Новы год – разам

На Новы год Надзя пазнаёміла яго са сваімі дзецьмі. "Мама, — трымайся дзядзькі Андрэя, — сказаў ёй назаўтра старэйшы сын. — Мы дарослыя, у нас свае жыцці, будзе з кім сустрэць старасць". "Якія ў цябе цудоўныя сыны, — захапляўся ў сваю чаргу новы знаёмы, — разумныя, шчырыя".

Праз нейкі час яны паехалі ў Маладзечна. Андрэй захацеў пазнаёміць яе са сваёй маці. І зноў усё было, як у казцы. Цёплы прыём, шчырая размова, прапанова пераехаць да іх. Маўляў, і старэйшаму сыну будзе зручней да нас прыязджаць, і меншаму ёсць дзе вучыцца. У горадзе ж і тэхнікум, і каледж, і вучылішчаў колькі. Яна была, як у сне. Яна верыла і не верыла, што такое можа быць. "Ды што ты, — паспрабавала супрацьляцца. — У мяне ж кватэра, дача, ды і работа добрая". А пасля згадзілася прадаць усё і пераехаць. Толькі б быць разам, толькі б чуць яго голас. Што гэта, пыталася сама ў сябе? І баялася прызнацца, што ў сэрцы зноў зарадзілася каханне. Шчырае, гарачае, якое светлым праменьчыкам асвяціла яе дагэтуль адзінокае і бязрадаснае жыццё.

У пачатку лютага ён перастаў званіць. "Андрэй, што-небудзь здарылася?" — пыталася расхваляваная жанчына. На другім канцы провада кідалі трубку альбо абражалі. Аднаго разу Надзя ўсё ж змагла выклікаць яго на размову. "Не тэлефануй, шукай сабе іншага мужчыну, — сказаў чалавек, якога яна паспела палюбіць. – Гэта быў звычайны спектакль, які дапамог мне вярнуць былую каханку". Сэрца балюча сціснулася, цёмна стала ў вачах ад крыўды. Навошта, навошта было складаць планы, гаварыць ласкавыя словы, клікаць да сябе, падманваць. Бачыў жа, што люблю, бачыў, што прыкіпела сэрцам. Ці так хацелася прымусіць пакутаваць, прычыніць боль?

## Пагаварыце са мной

У роспачы набрала нумар тэлефона рэдакцыі. "Пагаварыце са мной, — папрасіла нейкім нясмелым, вінаватым голасам. — Мне цяжка, а адкрыцца няма каму". Гаварылі доўга, мо, гадзіну. Адразу пра Андрэя, пасля пра жыццё, дзяцей, горад, жаночыя лёсы.

"Я не супраць, каб вы расказалі маю гісторыю на старонках газеты, — сказала на развітанне Надзя. — Хай яна стане ўрокам для даверлівых жанчын і своеасаблівым папрокам мужчынам, якія так лёгка ўмеюць растаптаць пачуцці. Можа, хтосьці захоча мне нават патэлефанаваць альбо напіша пісьмо, у якім падкажа, што рабіць, як жыць далей. Дайце ім, калі ласка, мой адрас".

Не выключэнне, што ўбачыць гэты матэрыял і сам Андрэй. Ведаю ад Надзі, што ён купляе і ўважліва чытае "Рэгіянальную газету". Спадзяюся, што патэлефануе жанчыне і хаця б папросіць прабачэння.

**Марына СЛІЖ.**

■ ГУТАРКА З ПСІХОЛАГАМ

# Не будзьце грубымі

**Існуе недарэчны міф, адпаведна якому мужчыну дастаткова быць грубым, напорыстым і крутым, каб жанчыны кінуліся да яго ног. Гэты зусім няправільна.**

Жанчыны кахаюць добрых і ветлівых мужчын, дастаткова ўпэўненых у сабе. Некаторыя мужчыны трымаюцца недалікатна з-за боязі атрымаць адмову. Яны спакойна могуць сказаць дзяўчыне брыдоту. А калі яна папросіць хама знікнуць, ён супакоіць сябе так: «Я і не збіраўся ўсур'ёз «здымаць» гэтую пачвару. Я проста хацеў пасмяяцца».

Большасці жанчын падабаюцца выхаваныя і добразычлівыя мужчыны. Безумоўна, у свеце ёсць і мазахісткі, якім падабаецца, калі аб іх выціраюць ногі. Аднак нармальныя жанчыны аддаюць перавагу тым, хто абыходзіцца з імі, як з каралевамі.

Калі мужчына падыходзіць да жанчыны на вуліцы ці ў аўтобусе, яна аказваецца ў не менш складаным становішчы, чым і вы. Ёй неабходна адолець хваляванне, выкліканае новым знаёмствам, а таксама высветліць, ці не з'яўляецеся вы звар'яцелым насмешнікам. Калі ў гэтае імгненне скажаце які-небудзь «камплімент» накшталт «Вам не цяжка хадзіць на такіх кароткіх нагах?» або «Чаму ў Вас такія радкія зубы?» жанчына абавязкова адвернецца ад вас. Узніце сабе, што жанчына — гэта кубік ільда і яго трэба растапіць.

Сучасны свет часцяком аказваецца ледзяным. А людзі шукаюць цяпла. Напрыклад, як прыемна сустрэць ветлівую, дружалюбную дзяўчыну, якая скажа, што вы вельмі прыгожы, дасціпны, элегантны. У вас узнікла б жаданне мець зносіны з гэтай дзяўчынай, праводзіць з ёй час. Вы адчулі б, што яна сапраўды разумее і цэніць вас.

Жанчыны такія ж. Яны аддаюць перавагу ветлівым, спагадлівым, добрым мужчынам, якія дапамагаюць ім адчуваць сябе камфортна. А калі жанчына адчувае сябе з вамі камфортна, ёй хочацца аддзячыць вам спатканнямі, сэксам і каханнем.

Большасць мужчын не здагадваецца аб тым, якім моцным сродкам заваёўвання жанчын з'яўляецца звычайная ўсмешка. Яна бездакорна дзейнічае на жанчын. Памятайце, што ўсмешкі бываюць чароўнымі ці сэксуальнымі. Калі вы падыдзеце да жанчыны з сур'ёзным, напружаным, скандэнтраваным выразам твару, вы спужаеце яе. Яна не ведае, што ў вас у галаве. Можа, хочаце спытацца, дзе бліжэйшая станцыя метро ці аўтобусны прыпынак, а, можа, збіраецеся вырваць у яе сумачку. Прыемная ўсмешка здольная растапіць лёд, завесці многіх жанчын, бо, усміхаючыся, вы быццам лашчыце вашую абраннійцу позіркам.

Існуе тысяча галантных учынкаў, з дапамогай якіх вы заваюеце сэрца жанчыны. Станьце яе рыцарам у бліскучых даспехах, і тады ёсць верагоднасць таго, што яна пойдзе за вамі ўпэўнена, перамогшы нясмеласць і хваляванне.



**Доктар, выкладчыца Маладзечанскага медыцынскага вучылішча Тацяна СКАРНЯКОВА.**

■ ТЭСТ

# Ці зайздросцяць вам?

1. Якая з гэтых прыказак адпавядае вам?

а) на людзях і памерці не страшна (2)

в) цішэй едзеш – далей будзеш (0)

2. Якую ролю вы сыгралі б у мастацкім фільме?

а) тайную фаварытку караля, дарадчыцу, "шэрага кардынала" ў спадніцы (0)

в) каралеву, легендарную актрысу, мастачку з сусветным імем (2)

3. Вам павысілі аклад, але прасілі не гаварыць аб гэтым у калектыве. Ці выканаеце вы гэты ўгавор?

а) канешне (0)

в) баюся, што не (2)

4. Да вас прыйшлі сябры, і муж адной з дам жартам скардзіцца, што жонка зусім не ўмее гатаваць. Вы:

а) тут жа падсоўваеце да яго бліжэй свае далікатэсы (2)

в) гаворыце, што сапраўдныя кулінары – толькі мужчыны, і прапануеце яму папоўніць іх рады (0)

5. Муж расказвае вам аб няўдачах на рабоце. Вы:

а) пераканаўча даказваеце яму, што ён паступіў няправільна (2)

в) спрабуеце разам з ім спакойна прааналізаваць сітуацыю (0)

6. Сяброўка скардзіцца, што нічога не зразумела ў той кнізе, якую вы ёй давалі. Ваша рэакцыя:

а) "Напэўна, яна проста не ў тваім гусце" (0)

в) "Як ты магла не ацаніць гэту класную рэч?" (2)

7. Каханы напісаў вам рамантычнае пасланне на паштоўцы. Вы...

а) схаваеце яе (0)

в) пакажаце яе сваім сяброўкам ці "выпадкова" забудзеце дзе-небудзь на бачным месцы (2)

**Адказы:**

**Ад 0 да 4 ачкоў.** Такое адчуванне, што вы маскіруеце свае поспехі, бо баіцеся зайздрасці і нядобразычлівцаў. Але на самой справе вы трохі перабольшваеце ўвагу да сваёй персоны. Урэшце, калі вы не будзеце нікому дэманстраваць тое, чым па праву можна ганарыцца, ваша ўласная радасць застанецца нейкай незавершанай.

**Ад 5 да 9 ачкоў.** Вы не любіце ўтойваць свае дасягненні. Калі ў жыцці здарацца радасная падзея, вы падзеліцеся гэтай навіной. У той жа час вас турбуе пытанне: ці не зайздросцяць вам? Хто як. Гэта залежыць ад самога чалавека і ад таго, у якой форме вы гэта паднасіце. Але сапраўдныя сябры заўсёды будуць рады вашаму шчасцю.

**Ад 10 да 14 ачкоў.** Вы часта даяце зачэпку для зайздрасці. Раздзяліць вашу радасць цяжка, паколькі вы самі часам правакуеце людзей на негатыўную рэакцыю. Памятайце, што хвальба не даводзіць да дабра, старайцеся быць сціплымі. А калі вы хочаце падзяліцца сваёй радасцю, то старайцеся рабіць гэта тактоўна.

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# На свяце ў Дубаўцы



1959 год. Вілейскі раён уваходзіць у Маладзечанскую вобласць. У горадзе 8 200 жыхароў. Тут ужо працуюць мэблевая фабрыка, птушкакамбінат, Дом культуры, школа, вакзал, гатэль, лазня. У гэтым годзе будуюць рамонтны завод. За першы год адрамантавана 200 трактарных рухавікоў. Шмат будуецца жылля, на працягу 1958-1960 гадоў здадзена ў эксплуатацыю каля 2,5 тысячы квадратных метраў. Жыццё наладжвалася, таму кіраўніцтва прыняло рашэнне адсвяткаваць 15-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Урочышча Дубаўка знаходзіцца непадалёк ад Віліі, у пару кіламетраў ад Вілейкі. Матацыклісты са сцягамі 15 рэспублік СССР сімвалізавалі агульную перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне. Удзельнік вайны, кулямётчык, узнагароджаны медалём "За адвагу", старшы меліяратар Вілейскага раёна Сямён Кіцікаў (справа).

**Ігар КІЦІКАЎ.**

Фота з сямейнага альбома Ігара Кіцікава.

■ ПАЭЗІЯ

# «Роднае слова – веры прычасце»

**У выдавецтве "Беларускі кнігазбор" выйшаў новы, трэці, зборнік вершаў паэта Вілейшчыны Івана Лашуткі "Святло слова", з'яўленне якога супала з 70-годдзем аўтара. Зборнік увабраў у сябе вершы, якія выпакутаваў ён за першыя гады XXI стагоддзя.**

Агульнае ўражанне ад зборніка – крык "збалелай душы" нераўнадушнага мудрага чалавека ад таго, што на Радзіме штодзённа даводзіцца сутыкацца са злом, якое побач з дабром. Таму і баліць сэрца аўтара ад трывогі.

Не абышоў увагай у зборніку паэт і чарнобыльскую трагедыю, якая ўдушлівай зашмаргай сціскае Радзіму. Ён выкрывае цынікаў-хапуноў, якія ў пагоні за нажывай труцяць народ рэчамі, якія забруджаны смяртэльнымі дозамі радыенуклідаў.

Нераўнадушная натура паэта абураецца ўсім тым, што пярэчыць чалавечаму сумленню і выступае супраць маны, здрады, фальшы, прытворства, насілля, кар'ерызму і іншых бедаў, якія трывала ўкаранілі́ся ў грамадстве. І ён бязлітасна бічуе ўсё тое, што ў нашым жыцці не ад сумлення, не ад бога, а ад д'ябла.

Знайшлося ў зборніку месца і вершам на вечную тэму – пра каханне і сяброўства. Сапраўды, добрымі пачуццямі ўсплывае сэрца, калі чытаеш вершы, якія авеяны цёплай лірычнасцю і дабрынёй. Затое якая самота ахоплівае, калі перажываеш разам з аўтарам горыч незваротных страт – адыход у вечнасць блізкіх сяброў.

А які душэўны боль прыносіць паэту незайздросны лёс роднай мовы! У вершы "Святло слова", які і даў назву зборніку, аўтар выказаў стогн адчаю. Толькі шчыры руплівец матчынай мовы можа ўдыхнуць у верш столькі цеплыні і любові да роднага слова – голасу беларускай зямлі.

Выкрывае аўтар і такую заганy нашага жыцця, як непрабуднае п'янства. У вершы "Зацьменне" ён паказвае бядотны лёс бабулькі, якой "жыць не хочацца і некалькі гадзін", таму што "І сын, і ўнук – яе крывінкі-дзеці – Спіліся ўсе, спіліся, як адзін".

Паэт бярэ і на сябе віну за тое, што "патанае гразэю пакаленне, у якога ўжо даўно прапіта ўсё – і гонар, і сумленне", і кажа, што "Нібы зацьменне ўпала на народ".

Веліч паэта якраз і ў тым, што ён прапускае праз сваю "збалелую душу" разнастайныя з'явы, дае ім трапную бескампрамісную ацэнку. Ён ставіць правільны дыягназ заганам нашага грамадства, адказнасць за якія таксама бярэ і на сябе.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ.**

**Іван ЛАШУТКА**

## Вачамі вясны

**(урывак)**

*Я вачамі вясны вас малюю –*
*Усе гукі і фарбы зямныя:*
*– Ахініце зямельку маю,*
*Каб ніколі і нідзе не забыў я,*
*Што ёсць край,*
*дзе лятаюць стрыжы,*
*Што ён ёсць і ён будзе,*
*Дзе ў жытнёвых палях*
*на мяжы*
*Васількі ўсміхаюцца*
*людзям.*

■ ПАМЯЦЬ

# Паўстанец 1863 года пахаваны ў Красным

**І гэта сапраўды так. Аповяд ідзе пра лёс Ігната Абрамовіча, які нарадзіўся ў 1839 годзе, пражыў 105 гадоў і памёр у студзені 1944 года. Ён у 24-гадовым узросце ўдзельнічаў у паўстанні 1863 года.**

У Красным Ігнат Абрамовіч пражыў амаль 25 гадоў. Захаваўся дом, дзе ён жыў і памёр, на ім няма ганаровай шыльды.

Пошук больших звестак пра гэтага чалавека пакуль вельмі цяжкі, бо з'ехалі тыя, хто ведаў больш, хто быў побач з ім у апошнія гады яго жыцця.

Але ёсць цікавыя звесткі пра тое, што пры яго актыўным удзеле быў пабудаваны ў цэнтры Краснага, насупраць касцёла, манумент паўстанцам. Магчыма, ён удзельнічаў у пошуку.

Недалёка ад яго хаты, на гары супраць станцыі Уша, былі пакараны паўстанцы і тут жа пахаваны. Астанкі іх былі ганарова перанесены і пахаваны ля манумента.

Трэцяга верасня 1938 года ў прысутнасці школьнікаў і трох святароў (бацюшкі, ксяндза і равіна) манумент быў асвечаны і адкрыты. Пры гэтым прысутнічаў амаль стагадовы паўстанец Ігнат Абрамовіч. Кажуць, ён зрабіў прамову.

Але помнік прастаяў нядоўга. У верасні 1939 года яго пачалі рабаваць: знялі крыж і бронзавую дошку з выявай Эміліі Плятэр (беларуская фальклярыстка, удзельніца паўстання 1830-1831 гадоў), але гэта версія, а ў кастрычніку 1940 года абрынулі на зямлю. Гэта зрабілі камсамольцы таго часу.

Цяпер на тым месцы стаіць абрабаваны падмурак, а ў зямлі – косткі паўстанцаў. Увагі і павагі да гэтага месца ў Красным няма. Так стаіць "нешта" сярод прыватнага агарода.

Варта паклапаціцца і пра помнік і магілу Ігната Абрамовіча, якая знаходзіцца на каталіцкіх могілках у Красным, побач са склепам Тышынскіх. Прайшло ж 60 гадоў...

**Аляксандр ХАРЫТОН, м.Краснае.**



**Магіла паўстанца 1863 года Ігната Абрамовіча ў Красным.**

Фота Аляксандра ХАРЫТОНА.

■ КАЛЯНДАР

**27** **сакавіка. 90 гадоў назад, 27 сакавіка 1914 года, нарадзіўся Васіль Васільевіч Шчарбіна** – маёр, камандзір разведвальна-дыверсійнага атрада, Герой Савецкага Саюза, загінуў у 1942 годзе, пахаваны ў Валожыне. Яго імем у Валожыне названая вуліца, ўстаноўлены яго бюст.

**550** **год з часу першага ўпамінання ў пісьмовых крыніцах (1454) г. Мядзел.** На паўночным захадзе рэгіёну паміж двух азёр Баторын і Мястра размясціўся Мядзел. Кіламетраў за пяць на поўнач ад яго знаходзіцца возера з такой самай назвай. На востраве Замак гэтага возера яшчэ захаваліся рэшткі ўмацаванага паселішча XI стагоддзя памежнай крэпасці Полацкага княства. Паводле мядзельскіх паданняў, тут існаваў першапачатковы Мядзел (Мядзіла, магчыма, ад літоўскага medinis - лясны, драўляны). У час мору амаль усе жыхары яго вымерлі, і толькі некалькі ўцалелых сем'яў перасяліліся на бераг Мястры. Новае паселішча захавала старую назву. Пазней частка людзей з паўночнага берага возера перабралася на паўднёва-ўсходні пры рэчцы Дробня, дзе і з'явіўся Новы Мядзел.

Самыя раннія пісьмовыя звесткі пра Мядзел адносяцца да сярэдзіны XV стагоддзя. Стары Мядзел упамінаецца з 1454 года ў сувязі з будаўніцтвам тут кашталянам трокскім А.Саковічам касцёла. Кароль Казімір IV аддаў Мядзел і Мядзельскую воласць у пажыццёвае ўладанне А.Саковічу, потым яго сыну ваяводу Багдану навечна разам з возерам Нарач. З пасагам адзінай наследніцы ўнучкі Багдана Саковіча Альжбеты Мядзел трапіў ва ўладанне віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла. Пасля Радзівілаў належаў буйным магнатам Францкевічам, Райскім, Грабоўскім, Кошчыцам... У 1762 годзе атрымаў Магдэбургскае права і дазвол на 4 кірмашы на год.

Новы Мядзел вядомы з 1463 года. У гэтым годзе князь Свірскі надзяліў касцёл землёю. Пасля Свірскіх Новы Мядзел перайшоў да Гаштольдаў, а калі памёр апошні прадстаўнік гэтага роду, стаў уласнасцю караля польскага і Вялікага князя Літоўскага Жыгімонта І Старога, які падараваў яго свайму сыну Жыгімонту ІІ Аўгусту. З сярэдзіны XVI стагоддзя жыхары «кароннага» (дзяржаўнага) Мядзела называліся «мяшчанскімі гаспадарамі» і мелі розныя прывілеі і паслабленні. З часам Мядзел ператварыўся ў адзін з важных цэнтраў грамадскага жыцця ВКЛ. На карце ВКЛ канца XVI стагоддзя ён абазначаны як «судовы горад, дзе разбіраюцца справы шляхты». У другой палове XVI стагоддзя тут выраблялася мядзельская кафля. У 1793 годзе Стары і Новы Мядзел увайшлі ў склад Расіі.

У канцы XIX стагоддзя Стары Мядзел налічваў каля 310 жыхароў, 46 двароў, царкву, бровар, піваварню, адбывалася 2 кірмашы на год. У мястэчку Новы Мядзел на той жа час жыло 780 жыхароў, мелася каля 100 двароў, царква, касцёл, народнае вучылішча, 4 крамы, адбывалася 8 кірмашоў на год. Прыватнаўласнае мястэчка Стары Мядзел і каронны Новы Мядзел афіцыйна існавалі да XX стагоддзя і толькі ў пачатку яго аб'ядналіся. З 1921 года Мядзел аказаўся ў складзе буржуазнай Польшчы. У 1939 годзе ўвайшоў у склад БССР.

# ВІНШАВАНКІ

Віншуем з юбілеем
**Святлану Міхайлаўну Краснапёраву!**
Дарагая дачушка і ўнучка!
Пусть будет радость, прочь печали
И горе пролетит с грозой,
Но если будет очень трудно,
То знай, что мы всегда с тобой!
*Маці, тата і бабуля.*

Віншую **Соладаву Любоў Іванаўну** з юбілеем. Что тебе подруга пожелать? Чтоб была счатливою, как мать, чтоб была любимой, как жена, чтобы дом всегда был полон света, чтоб в душе цвела – нежная весна. *Марына.*

**Валянціну Анатольеўну Маркоўскую** віншуем з днём нараджэння! Любая матулечка, мы ўдзячны лёсу за тое, што ты ёсць. *Дзеці.*

**Людмілу Міхайлаўну Сакалоўскую** віншуем з 50-годдзем!!! Няхай жыццё квітнее буйным цветам, бо ўсё самае прыемнае наперадзе. *Жэня і Лена.*

**Тамару Мікалаеўну Палюшкевіч** віншуем з 50-годдзем! Жадаем шчасця, усмешак, цяпла, толькі дабра і прыемных сюрпрызаў. *Твая сям'я.*

**Мікалая Васільевіча Бондара** з днём нараджэння! Моцнага здароўя, доўгага жыцця, шчасця, бадзёрага добрага настрою. *Ад сына Мікалая і нявесткі Ірыны.*

**Ніну Іванаўну Альхімовіч** віншуем з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, доўгіх год жыцця. *З любоўю, сястра і яе сям'я.*

**Марыю Палянскую** віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, настрою, усмешак, пяшчотнага сонейка, шчасця. *Сяброўкі з д/с №9.*

**Святлана Цішко**, калі мы пойдзем у тэатр? *Валянціна.*

**Наталлю Карташэвіч** віншуем з днём нараджэння! Няхай будзе шмат удачы і яшчэ больш - шчасця. *Сяброўкі.*

**Наталлю Карташэвіч** віншую з днём нараджэння!!! Ад усёй душы жадаю табе вялікага шчасця і дабра. *Кума.*

**Наталлю Карташэвіч** віншуем з днём нараджэння! Жадаем толькі радасных дзён, здароўя, дабрабыту, верных сяброў. *Сястра і яе сям'я.*

**Наталлю Карташэвіч** віншуем з днём нараджэння! Жадаем жыць, як у цудоўнай казцы. Здароўя, моцы і прыгажосці. *Муж, дачка.*

**Наталлю Карташэвіч** віншуем з днём нараджэння! Няхай у тваім доме будзе шчасце, любоў у сям'і і шмат сяброў. *Бацькі.*

# ЗНАЁМСТВЫ

Прыемная жанчына, 42/165, пазнаёміцца з адзінокім, самастойным, добрым і ласкавым, без шкодных звычак мужчынам для сур'ёзных адносін. 222310, Маладзечна-6, п/п 1306152.

# Сустрэча праз 25 гадоў


А.Гедройць


А.Рошчын


Д.Хатулёў


М.Былінскі


С.Шадыра


А.Маршын


У.Федукевіч


У.Туровіч


М.Часноўская

*Шаноўнае спадарства!*

**Надзвычай важная навіна!**

*Выпускнікі Маладзечанскага палітэхнікума 1979 года выпуску*

**сустрэнуцца 27 сакавіка ў 12.00 у палітэхнікуме.**

Т.Бадзюля

Р.Барсук


Ю.Зыранаў


У.Садоўскі

У.Валковіч

М.Траян


У.Занковіч


У.Дзедзікаў


В.Нікіцін


А.Заруба


В.Батура


У.Валынец


В.Шыбуня

■ ВЕРСІІ

## Чаму жартуюць 1 красавіка

Кожны чалавек любіць папрыколвацца над кім-небудзь, пажартаваць ці разыграць, але адзін дзень у годзе гэтым займаюцца ўсе: ад дзіцяці да дарослага, ад студэнта да дзелавога чалавека. Але вось чаму гэты дзень прыпадае менавіта на 1 красавіка, дакладна сказаць ніхто не можа. На гэты выпадак існуе некалькі версій, адны прыпісваюць зараджэнне гэтага свята Старажытнаму Рыму, дзе ў сярэдзіне лютага (а зусім не ў пачатку красавіка) святкавалася свята Бязглуздых. Іншыя пераносяць зараджэнне свята ў Старажытную Індыю, дзе 31 сакавіка адзначалі свята жартаў. 1 красавіка ў старажытным свеце жартавалі толькі ірландцы, ды і то ў гонар Новага года.

Ёсць версія, па якой гэтаму святу мы абавязаны неапалітанскаму каралю Мантэрэю, якому ў гонар свята ў сувязі са спыненнем землятрусу паднеслі рыбу. Праз год цар запатрабаваў менавіта такую ж. Такой не нашлі, але повар прыгатаваў другую, якая вельмі нагадвала патрэбную. І хаця кароль распазнаў падмену, але не разгневаўся, а нават развесяліўся. З таго часу і ўвайшлі ў звычай першакрасавіцкія розыгрышы.

Калі і кім гэтае свята было завезенае ў Расію – невядома, але ў творах многіх пісьменнікаў і паэтаў канца XVII стагоддзя з'явіліся радкі пра першакрасавіцкія розыгрышы. Напрыклад, Пушкін пісаў:

Брови царь нахмуря,
Говорил вчера:
"Повадила буря
Памятник Петра".
Тот перепугался:
"Я не знал! Ужель?"
Царь расхохотался:
"Первый, брат, апрель..."

Як паказваюць сацапытанні, больш за 70% людзей збіраецца разыграць каго-небудзь са сваіх знаёмых. Прычым больш за ўсё падвохаў варта чакаць ад студэнтаў і, як ні дзіўна, людзей, якія займаюцца бізнэсам і маюць сваю фірму, затое бабуль баяцца не варта, хаця можа ўсё і наадварот, бо на 1 красавіка жартуюць усе. Так што будзьце пільнымі, запасайцеся пачуццём гумару, наборам свежанькіх жартаў і забаўных вершыкаў, на розыгрышы не крыўдзіцеся, а адказвайце імі ж. Наогул, весяліцеся, таму што хвіліна смеху таксама карысная для здароўя гэтак жа, як кілаграм не паточанай жукамі морквы.

**Падрыхтавала Алена УРБАНОВІЧ.**



■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

**Прывітанне! На момант падрыхтоўкі гэтага матэрыялу толькі чатыры правільныя адказы на заданні папярэдняга выпуску "Зарабі білеты ў кіно" былі ў маёй пошце.**

Правільна на абедзве задачы адказалі **Анастасія Дуровіч, Дзмітрый Пакладок, Аляксей Шчасны, Максім Захарыч**. Калі ласка, заходзьце да нас за білетамі.

### Адказы

Задача з чатырма двойкамі мае варыянты. Мы прывядзём толькі некаторыя:

0=2+2-2-2
1=(2+2) : (2+2)
3=2+2-2:2
4=2x2x2:2
5=2+2+2:2
6=(2+2:2)x2
8=2+2+2+2
9=22:2-2
10=(2+2)x2+2

Няпоўны квадрат можна падзяліць толькі так:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | 2 | 2 | |
| 1 | | 3 | | | 1 | |
| | 3 | 1 | | 1 | | |
| 2 | | 3 | ■ | | 1 | 3 |
| 3 | | 3 | 2 | 1 | 1 | 2 |
| 3 | | 2 | | | | |
| | | | 2 | 2 | | 3 |

### Наступныя заданні:

1. Ці магчыма наступная роўнасць: 19+20=15 ?

2. Ёсць 10 кучак манет. У кожнай кучцы па 10 манет. Вядома, што адна з кучак складаецца цалкам з фальшывых манет. Невядома толькі -- якая. Ведаем таксама сапраўдную вагу адной манеты. Кожная фальшывая манета на адзін грам цяжэйшая, чым трэба. Манеты можна ўзважваць на спружынных вагах. Якую мінімальную колькасць узважванняў неабходна правесці, каб знайсці кучку, складзеную з фальшывых манет?

Калі ласка, давайце свае адказы толькі пісьмова. Адказы прымаюцца да 5 красавіка ўключна. Будуць разыграны 3 білеты.



**Падрыхтавала Аксана КУЛЕЎНІЧ.**

## Купон 13

рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

### Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

■ ІМЯНІНЫ

**26 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Хрысціны, Аляксандра, Нікіфара.
**Каталіцкія**: Тодара, Эмануіла.

**27 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Венядзікта, Міхаіла, Расціслава.
**Каталіцкія**: Лідзіі, Яна.

**28 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Агапія, Аляксандра, Дзяніса, Нікандра.
**Каталіцкія**: Анелі, Сікста, Яна.

**29 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Аляксандра, Апанаса, Трафіма, Юльяна.
**Каталіцкія**: Бертольда, Яўстаха.

**30 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Аляксея, Макара.
**Каталіцкія**: Амеліі, Леанарда, Яна.

**31 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Кірылы, Трафіма.
**Каталіцкія**: Бальбіны, Карнеліі, Беніяміна.

